# Голас Радзімы

№ 32 (2122)
10 жніўня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.







Як і штогод, па запрашэнню Беларускага таварыства «Радзіма» ў піянерскім лагеры «Зялёны Бор» пад Мінскам адпачываюць дзеці суайчыннікаў. Сёлета яны прыехалі з Галандыі, Польшчы, Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, Сірыі і Францыі. Такія знаёмыя малюнкі! Каля Вечнага агню на плошчы Перамогі, на прыёме ў Беларускім таварыстве «Радзіма» і ў самім лагеры, дзе больш за ўсё яны бавяць час. Да апошняга часу надвор'е ў Беларусі надзвычай спрыяла вясёламу, прыемнаму адпачынку, было знаёмства з беларускай сталіцай, яе славутасцямі і мастацкімі калектывамі. У піянерскім лагеры вельмі многа захапляючых спраў і заняткаў. Хіба сатрэцца з памяці Ліны Курдзі тое вясёлае свята і цудоўнае для яе імгненне, калі яе на конкурсе назвалі «міс зачараванне», прызнаўшы тым самым, што яна самая прывабная і самая дасціпная.

Трэці раз запар прыязджаюць у «Зялёны Бор» Клава і Сярожа Капенол. Каб было тут нецікава і нязручна, думаю, яны палічылі б за лепшае застацца дома ці паехаць у якое іншае месца. «Нам тут заўсёды добра, — гавораць брат і сястра. — Шкада, што расцём, а пасля 14 год у лагер не бяруць».

НА ЗДЫМКАХ: дзеці на плошчы Перамогі; «пір» у таварыстве «Радзіма»; сябры — Сяргей КАПЕНОЛ, Саліф ДЗІЯНЭ, Максім КУРДЗІ; «самая прыгожая» — Ліна КУРДЗІ.

Фота С. КРЫЦКАГА.





ЗАКОНЧЫЛАСЯ СЕСІЯ

## ПРЫНЯТЫ РАШЭННІ

У Маскве закончыла работу сесія Вярхоўнага Савета СССР. На ёй народныя дэпутаты СССР зацвердзілі ўрад, заслухалі і прынялі шэраг пастаноў, указаў і законаў.

Значны рэзананс у грамадстве атрымала абмеркаванне законапраекта аб пераходзе рэспублік Прыбалтыкі на гаспадарчы разлік і эканамічную самастойнасць. Прайшла вельмі бурная дыскусія і ў Вярхоўным Савеце. У выніку была прынята пастанова, якая падтрымала прапанову прыбалтыйскіх дэпутатаў, і цяпер з новага 1990-га года гэты рэгіён распачынае эксперымент.

Дэпутаты прынялі яшчэ некалькі тэрміновых рашэнняў. Так былі павышаны да пражыццёвага мінімуму пенсіі калгаснікам, рабочым, служачым. Адзначалася, што ўпершыню тут былі ўраўнаваны правы сялян і гараджан. Павялічыліся выплаты інвалідам дзяцінства, а таксама вайны ў Афганістане.

На сесіі былі ўнесены важныя дапаўненні ў Закон аб дзяржаўным прадпрыемстве, якія далі значную самастойнасць фабрыкам і заводам. На адным з пасяджэнняў была заслухана і адобрана справаздача аб паездках Старшыні Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачова ў Вялікабрытанію, Федэратыўную Рэспубліку Германіі і Францыю.

КІРАВАННЕ ЧЫГУНКАЙ

## З ЦЭНТРА ВІДАЦЬ УСЁ

Наваселле за некалькі сотняў кіламетраў ад ранейшай «прапіскі» справіла дыспетчарская служба Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі. Яго станцыямі цяпер кіруюць з Мінска. Адсюль, з адзінага цэнтра, якому ўжо падуладна трэцяя частка ўсёй беларускай магістралі, дыспетчары складаюць маршруты для грузавых і пасажырскіх паяздоў, даюць каманды машыністам і дзяжурным па станцыях, а аўтаматыка пераводзіць стрэлкі.

«Бачыць» гэтак далёка чыгуначнікам дапамагае распрацаваная спецыялістамі магістралі аўтаматызаваная сістэма кіравання рухам «Мінск-2». Прымяніўшы сучасныя мікрасхемы, яны аснасцілі рабочыя месцы дыспетчараў кампактнай і універсальнай апаратурай, габарыты якой у параўнанні з той, што выпускаецца ў краіне, паменшаны ў дзесяткі разоў. Гэта дало магчымасць размясціць пульты кіравання на звычайных рабочых сталах. Маршруты паяздоў пракладваюцца з дапамогай дысплеяў.

Пасадзіць дыспетчара ўдалечыні ад участка, якім ён кіруе, — не капрыз беларускіх транспартнікаў. Пасля старанняй адпрацоўкі віцебскіх маршрутаў у сталіцу рэспублікі пачнуць «пераязджаць» і астатнія чатыры аддзяленні. У Мінску будзе створаны адзіны цэнтр кіравання ўсёй Беларускай чыгункай. Сотні буйных і малых станцый, тысячы пуцей і святлафораў «змесцяцца» на адным табло, якое разам са сродкамі аўтаматыкі зойме невялікую залу.

АДКРЫЎСЯ МЕМАРЫЯЛ



**На Гродзеншчыне ў гарадскім пасёлку Свіслач у 45-ю гадавіну вызвалення Свіслаччыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў адкрыўся мемарыял у памяць землякоў, якія не вярнуліся з вайны. Аўтары комплексу — скульптар П. Цомпель, архітэктары Ю. Казакоў і М. Карпюк — імкнуліся выявіць у сваім творы моц зямлі, што нарадзіла герояў. Цэнтральная фігура — воін-асілак — гэта абагульнены вобраз народа, які ў жорсткай барацьбе з ворагам абараніў і вызваліў сваю Айчыну. Ля падножжа скульптуры — пліты з імёнамі жыхароў Свіслаччыны, якія загінулі на вайне.**

**На мітынг, прысвечаны адкрыццю мемарыяла, прыехалі ветэраны, якія 45 гадоў назад вызвалялі Гродзеншчыну і Беласточчыну ад акупантаў, а таксама некалькі соцень жыхароў польскай Гайнаўкі — з гэтым горадам Свіслач падтрымлівае сяброўскія сувязі. Свята працягвалася ў гарадскім парку, дзе была разгорнута выстаўка народных майстроў Свіслаччыны, на гарадскім стадыёне адбылося тэатралізаванае прадстаўленне, выступілі самадзейныя артысты з Воранава і Гайнаўкі, прайшлі спартыўныя спаборніцтвы.**

**НА ЗДЫМКУ: новы мемарыял у Свіслачы.**

СУПРАЦОЎНІЦТВА





**Павялічвае пастаўкі прадукцыі за рубеж знешнегандлёвая фірма, створаная пры Мінскім станкабудаўнічым вытворчым аб'яднанні імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пашыруюцца і рынак яе збыту: да японскіх, заходнегерманскіх, канадскіх фірмаў, што ахвотна закупплялі абсталяванне і раней, дабавілася паўднёвакарэйская, якая гатова прадаваць беларускія станкі ў краінах Ціхаакіянскага рэгіёна. Заключаюцца дагаворы на супрацоўніцтва з зарубежнымі партнёрамі. Так разам з англічанамі плануецца наладзіць выраб фрэзерных станкоў тыпу апрацоўчы цэнтр. Мае патрэбу ў паляпшэнні рэклама прадукцыі, на што ў аб'яднанні ў апошні час звярнулі сур'ёзную ўвагу. Вырашана шырэй прадстаўляць вырабы прадпрыемства на міжнародных выстаўках. На вясеннім Лейпцыгскім кірмашы ў ГДР адзін са станкоў — фрэзерны — адзначаны Залатым медалём. Зараз станкі тыпу апрацоўчы цэнтр рыхтуюцца да адпраўкі ў Чэхаславакію і Японію.**

**НА ЗДЫМКАХ: дырэктар фірмы Дзмітрый КАРЗОЎ (у цэнтры) і інжынер Міхаіл ГРЫХАНАЎ (крайні злева) абмяркоўваюць пытанні супрацоўніцтва з прадстаўнікамі заходнегерманскай станкабудаўнічай фірмы «Шэнк» — галоўным упраўляючым аддзела Майландам КАЕМ, кіраўніком аддзела Томасам ГЕОРГІ і кіраўніком прадстаўніцтва фірмы «Шэнк» у Маскве Гердам-Юргенам ШОЛЬЦАМ; рыхтуецца да адпраўкі для ўдзелу ў выстаўцы-кірмашы ў Брно (ЧССР) фрэзерны станок тыпу апрацоўчы цэнтр.**

ІДЗЕ ПАДРЫХТОЎКА

## ФЕСТЫВАЛЬ КРОЧЫЦЬ ДАЛЕЙ

Год назад у Віцебску адбыўся першы фестываль польскай песні. Быў пакладзены пачатак добрай традыцыі суседніх братніх народаў. Цяпер ідзе падрыхтоўка да новага, другога фестывалю, які пройдзе ў наступным годзе. Пра тое, якім яму быць, ішла размова на ўсесаюзным семінары арганізатараў рэспубліканскіх і занальных фестываляў польскай песні.

Аргкамітэтам унесены некаторыя змены ў праграму фестывалю. Напрыклад, будзе арганізаваны канцэрт фальклорных калектываў рэспублікі, членаў журы конкурсу, будуць запрошаны «зоркі» зарубежнай эстрады.

Хоць яшчэ цэлы год наперадзе, падрыхтоўка да фестывалю ідзе поўным ходам. Зараз у работу актыўна ўключыліся спонсары. Як адзначыў дырэктар Віцебскага гарадскога цэнтра культуры і адпачынку Р. Бас, ствараецца спецыяльная рэкламна-інфармацыйная служба, якая будзе стымуляваць удзел прадпрыемстваў і арганізацый у падрыхтоўцы свята польскай песні. Прыблізны кошт правядзення другога фестывалю—каля 300 тысяч рублёў.

Рыхтуецца да фестывалю і Летні тэатр. Будуецца яго другая чарга, якая ўключае комплекс будынкаў: кафэ, білетныя касы, малыя спартыўныя залы, бытавыя памяшканні.

НОВАЯ АПАРАТУРА

## АПЯКУН — ДЗІЦЯЧЫ ФОНД

Беларускае аддзяленне Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна стала спонсарам праграмы па вытворчасці спецыяльных прыбораў, распрацаваных вучонымі Беларускага навукова-даследчага інстытута аховы мацярынства і дзяцінства разам са сваімі калегамі з Інстытута біяарганічнай хіміі Акадэміі навук БССР. Гэтыя прыборы дазваляюць дыягнаставаць нават у нованароджаных захворванні, звязаныя з забруджваннем экалагічнага асяроддзя.

Выпрабаванні, праведзеныя экспедыцыямі медыкаў і спецыялістаў у шэрагу раёнаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей, паказалі высокую эфектыўнасць апаратуры.

На доследнай вытворчасці Інстытута біяарганічнай хіміі АН БССР наладжаны выпуск новых прыбораў. З іх дапамогай ужо абследавана пяць тысяч дзяцей з раёнаў, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# ЭКАНОМІЦЫ — САЦЫЯЛЬНУЮ СКІРАВАНАСЦЬ

У мінскім Доме палітасветы адбылася чарговая прэс-канферэнцыя з прадстаўнікамі кіраўніцтва рэспублікі. У ёй прынялі ўдзел сакратар ЦК КПБ Уладзімір Ляпёшкін, міністр гандлю БССР Мікалай Петрушкевіч, намеснік старшыні Дзяржплана БССР А. Шалабадзінскі, іншыя афіцыйныя асобы. Тэма гутаркі, што адбылася, — узмацненне сацыяльнай скіраванасці ў эканоміцы рэспублікі.

У. Ляпёшкін пачаў прэс-канферэнцыю з невялікага аналізу агульнага стану эканомікі Беларусі. Ён ахарактарызаваў яго, як непросты і супярэчлівы. Сёння рэспубліка працуе ў адпаведнасці з тым пяцігадовым планам, што быў распрацаваны і прыняты ў 1986 годзе. Да яго цяпер існуе нямала прэтэнзій, але тым не менш патрабаванні, што ў ім закладзены, беларускай народнай гаспадаркай выконваюцца і па некаторых пазіцыях нават перавыконваюцца. І гэта не толькі ў так званым «вале», рублях, але і ў натуральным вымярэнні. Напрыклад, у мінулай пяцігодцы ў рэспубліцы ў сярэднім у год будавалася 85 тысяч кватэр і асобных дамоў. Цяпер жа — 100 тысяч. У 1,5 раза павялічаны гадавыя капітальныя ўкладанні ў сацыяльную сферу. З 1988-га года прырост прадметаў спажывання ў 1,3 раза перавышае вытворчасць сродкаў вытворчасці. Але ўся справа ў тым, што гэтыя станоўчыя зрухі пакуль недастаткова інтэнсіўныя і таго росту, які рэспубліка сёння мае, крайне мала для яе эфектыўнага развіцця і задавальнення ўсіх патрэб жыхароў. Для прыкладу, штогадовы прырост тавараў народнага спажывання складае ў сярэднім толькі 7 працэнтаў, кватэр трэба будаваць не 100, а 130 тысяч. Між іншым, рэспубліка звярнулася да саюзнага кіраўніцтва з просьбай вярнуць сваіх будаўнікоў, тэхніку, будматэрыялы, занятых зараз па-за яе межамі, — у Заходняй Сібіры, Нечарназем'і, у Арменіі, на БАМе. Будаўнічыя сілы вельмі патрэбны зараз самім, асабліва ў зоне чарнобыльскай катастрофы. Галоўная ж хвароба, якая напаткала ўсю савецкую эканоміку, у тым ліку і беларускую, — разбалансаванасць унутранага рынку на базе значнай інфляцыі. Дзяржава выпускае грошы, незабяспечаныя таварамі і паслугамі, тэмпы росту заработнай платы па-ранейшаму вышэй за павышэнне прадукцыйнасці працы. Якое ж выйсце са складанага становішча? У адказ У. Ляпёшкін адзначыў: па-першае, неабходна больш умела гаспадарыць, удасканальваць канструкцыі, тэхналогіі, зніжаць выдаткі, павышаць якасць вырабаў; па-другое, нарошчваць вытворчасць тавараў народнага спажывання і паслуг. Дарэчы, каб неяк абараніць унутраны рэспубліканскі рынак, у красавіку вымушаная аператыўная меры рэспубліканскае міністэрства гандлю было вымушана скласці спіс тавараў, прыватны вываз і перасылка якіх за межы рэспублікі часова абмяжоўваюцца ці нават забараняюцца. Бо, як паведаміў міністр гандлю, фонды растуць, а дэфіцыт ніяк не змяншаецца.

Згаданыя вышэй два напрамкі, — так сказаць, стратэгічныя. Якая ж тактыка? На гэтае пытанне журналісты таксама атрымалі падрабязны адказ. У прыватнасці адзначалася, што пакуль не поўнасцю выкарыстоўваюць свае магчымасці па выпуску тавараў шырокага спажывання прадпрыемствы цяжкай прамысловасці, машынабудаўнічыя саюзнага падпарадкавання. Яны павінны на кожны рубель заработнай платы выпускаць такіх тавараў таксама на рубель. Але пакуль гэты нарматыў не дасягнуты. У Беларусі 56 прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці. Іх магутнасці зараз выкарыстоўваюцца амаль поўнасцю, зменны каэфіцыент — 2,7, і гэта пры тым, што працуюць там практычна адны жанчыны. Таму галоўны рэзерв тут — толькі карэннае тэхнічнае пераабсталяванне. У рэспубліцы з 1988 года створаны праграмы па асобных групах тавараў народнага спажывання. Выхадны пункт адліку ў іх — лічба поўнага задавальнення попыту на даны тавар у рэспубліцы плюс пастаўка ў агульнасаюзны фонд. Тут ёсць і адзін прынцыповы момант. Кіраўніцтва рэспублікі ставіць пытанне аб стабільнай, нязменнай колькасці такіх паставак, чаго пакуль яшчэ няма. Немалыя надзеі ўскладаюцца і на сумесную вытворчасць з капіталістычнымі краінамі. Свой уклад у вырашэнне праблем павінна ўнесці і канверсія. На наступны год распрацоўваюцца канкрэтныя планы па кожнаму прадпрыемству абароннай прамысловасці, дзе пазначана, колькі дакладна тавараў яно будзе выпускаць па лініі менавіта канверсіі. Пералічанае — толькі некаторыя аспекты вялікай справы, якая патрабуе глыбока прааналізаваных і разнастайных падыходаў. Бо і сёння яшчэ наша эканоміка скіравана на сацыяльную сферу далёка не ў той меры, як патрэбна. Змяніць становішча — і ёсць задача пербудовы.

## ТРЫ ІНТЭРВ'Ю ПА ЭКАЛАГІЧНЫХ ПРАБЛЕМАХ

# ГРАМАДСТВА Б'Е ТРЫВОГУ

**У апошнія некалькі гадоў, нарэшце, і ў савецкім грамадстве настойліва загучала слова «экалогія». Загучала не толькі ў салідных залах на навуковых сімпозіумах і канферэнцыях, але і з імправізаваных трыбун масавых народных мітынгаў і маніфестацый, не сыходзіць яно і са старонак газет, часопісаў. Грамадства б'е ва ўсе званы: экалагічная катастрофа стаіць на парозе нашага дома. І сёння гэтае сцвярджэнне больш не мае нейкага абстрактнага і агульнага значэння. Ёсць нямала такіх дамоў, куды бяда ўжо наведалася. І сярод найбольш глабальных — радыеактыўнае забруджванне некаторых раёнаў Украіны і амаль ці не паловы Беларусі ў выніку чарнобыльскай аварыі. Трэцяя частка сельгасугоддзяў нашай рэспублікі сёння не можа даваць «чыстай» прадукцыі. Побач з гэтай бядой цьмянее нават меліярацыя Палесся, якая ў большасці выпадкаў прывяла да глыбіннага парушэння экалагічнага балансу ў гэтым вельмі адметным сваёй прыродай краі, надзвычайная «прамысловая» забруджанасць Магілёва, Гомеля, Наваполацка, Мазыра. Тое, што я назвала, — толькі некаторыя з адкрытых і яшчэ незагойных экалагічных ран.**

**Экалагічная сітуацыя ў Беларусі скалалася вельмі вострая. Паслухаць, дык сёння, быццам, гэта добра ўсвядомлена на ўсіх узроўнях грамадства: ад міністэрскіх кабінетаў да невялікіх вёсак, дзе санітарна-эпідэміялагічныя службы пламбіруюць калодзежы, бо калісьці чыстая, смачная, амаль гаючая вада з іх зрабілася сапраўднай атрутай. Але чаму ж тады справа рухаецца так марудна, а сродкі масавай інфармацыі амаль кожны дзень прыносяць паведамленні пра ўсё новыя і новыя факты экалагічнай небяспекі! Чаму добрыя намеры не адпавядаюць канкрэтным дзеянням! Прычын нямала. Сапраўдным тормазам стаў ведамасны падыход у кіраванні народнай гаспадаркай, калі прадпрыемства хвалюе толькі вытворчы план любой цаной, а мясцовыя ўлады не маюць сур'ёзнай прававой, заканадаўчай асновы, каб паспяхова змагацца з такімі індустрыяльнымі монстрамі. Для ўтаймавання экалагічна шкодных вытворчасцей у краіне нядаўна быў створаны Дзяржаўны камітэт па ахове прыроды. Адпаведная ўстанова існуе і ў нас у рэспубліцы. Менавіта гэты камітэт і павінен першым выступаць у абарону навакольнага асяроддзя, а значыць і нас, людзей.**

**СУСТРЭЧА ПЕРШАЯ. Са старшынёй Рэспубліканскага камітэта па ахове прыроды і навакольнага асяроддзя Віктарам КАЗЛОВЫМ:**

— Каб неяк сістэматызаваць сённяшнія экалагічныя праблемы рэспублікі, я б спачатку падзяліў іх на тры асноўныя групы. Такім чынам, па-першае, — уздзеянне канцэнтрацыі і развіцця прамысловасці, асабліва хімічнай; па-другое, — інтэнсіфікацыя сельскагаспадарчай вытворчасці і, па-трэцяе, — вынікі чарнобыльскай аварыі.

Сёння ў адзінаццаці гарадах Беларусі — Мінску, Гомелі, Магілёве, Віцебску, Гродне, Баранавічах, Барысаве, Оршы, Мазыры, Пінску і Бабруйску выпрацоўваецца семдзесят працэнтаў усёй прамысловай прадукцыі рэспублікі. Узровень канцэнтрацыі прамысловасці значны, і, як вынік, нездавальняючыя экалагічныя ўмовы, шэсцьдзесят працэнтаў забруджання прыпадае менавіта на гэтыя гарады. Тут наша галоўная работа.

Вось і нядаўна правялі выязную калегію ў Гомелі — вялікім індустрыяльным цэнтры. Цікавілі нас у першую чаргу прамысловыя выкіды хімзавода, «Гомсельмаша», аб'яднанняў па выпуску эмаліраванага посуду, мэблі... Карацей, прычын для хвалявання нямала, а калі да гэтага дадаць чарнобыльскі сіндром, то трывогу людзей тлумачыць не трэба.

У Гомелі мы сабралі кіраўнікоў прадпрыемстваў, прапанавалі разам распрацаваць меры экалагічнай бяспекі.

— Але ж найбольш буйныя заводы звычайна маюць, як кажуць, саюзнае падпарадкаванне. Ці не здараецца так, што патрабаванні рэспубліканскага органа яны прапускаюць міма вушэй?

— Што ж, прадукцыя іхняя, можа, і саюзная, а вось зямля, вада, паветра, нарэшце, людзі — нашы. І клапаціцца пра іх — нам. Між іншым, у Гомелі з аб'яднаннем па выпуску кормаўборачных камбайнаў пытанне паставілі так: калі вызначаныя меры не будуць прынятыя, «Гомсельмаш» страціць свой завод ліцця. Падобная сітуацыя склалася цяпер і ў Магілёве на заводзе штучнага валакна. Ён дае 15 тон выкідаў сярністых злучэнняў у год. Гэта вельмі небяспечна. І ў той жа час ужо 6 гадоў [illegible]дуюць для іх улоўнік, які [illegible]оціць выкід на 35 працэнтаў. Хіба гэта нармальна: будаваць шэсць гадоў? Вось мы і далі нашаму абласному камітэту рэкамендацыю: закрыць адзін з галоўных цэхаў. Такія прадпісанні паступ[illegible] за месяц.

— Дырэкцыя, зразумела, пратэстуе?..

— Дырэкцыя, безумоўна, пратэстуе. Гаворыць, што рабочых там дзве тысячы, куды яны, маўляў, пойдуць і хто іх будзе карміць. Мы прапанавалі: адпусціце ў адпачынак. Страты вялікія? Так. Але самі вінаваты. Дарэчы, прад'явілі прэтэнзіі і да свайго рэспубліканскага Савета Міністраў. Замест таго, каб падштурхнуць будаўніцтва ўстаноўкі для ачысткі, там стварылі чарговую камісію: разбіраюцца, хто мае рацыю — мы ці кіраўніцтва завода.

— Вельмі складаная экалагічная абстаноўка яшчэ ў адным горадзе хімікаў — Наваполацку. Як цяпер там справы?

— Сітуацыю ў Наваполацку неаднойчы абмяркоўвалі, прымаюцца меры, каб яе палепшыць. Сказаць, што там ужо ўсё нармалізавалася, безумоўна, нельга. Але колькасць прамысловых выкідаў пачала змяншацца. І гэтая тэндэнцыя, хочацца спадзявацца, будзе паглыбляцца. Зрэшты, наогул у цяперашнюю пяцігодку атрутных выкідаў у рэспубліцы паменшала ў асноўным за кошт новых тэхналогій. Змяншэнне пакуль невялікае, але, калі ўлічыць, што раней быў рост інтэнсіўнасці забруджвання, то сённяшні пералом у сітуацыі — важны вынік.

— Немалы клопат прыносіць вам, ды і ўсім нам, сельская гаспадарка...

— Так. Інтэнсіфікацыя сельскагаспадарчай вытворчасці патрабуе і мінеральных угнаенняў, і пестыцыдаў. Да таго ж у нас у Беларусі створана 185 вялікіх, а іншы раз проста гіганцкіх жывёлагадоўчых комплексаў. Яны даюць 20 мільёнаў кубічных метраў сцёкаў — страшэнна многа. І пякучая праблема сёння — іх утылізацыя. Гадамі выкарыстоўвалі недасканалую сістэму ачысткі праз глебу. Але памылковыя разлікі прывялі да таго, што нагрузка была задужа вялікай і пайшло забруджванне грунтовых вод нітратамі: расліны не здольныя перапрацаваць увесь той азот, што атрымліваюць.

— І якое выйсце прапануе Камітэт па ахове прыроды?

— Мы зыходзім з таго, што альтэрнатывы інтэнсіфікацыі няма. Але тэхналогіі павінны быць экалагічна чыстымі. Пошук вядзем разам з навукоўцамі. Ужо распрацавана замкнёная тэхналогія для ўтылізацыі адходаў вялікіх жывёлагадоўчых комплексаў. Зараз яна ўкараняецца ў Горках. З надзеяй чакаем вынікаў.

Другая небяспека, як я ўжо казаў, — няўмелае, празмернае выкарыстанне мінеральных угнаенняў і пестыцыдаў. Бывае, нават проста ад сквапнасці сыплюць і сыплюць: маўляў, больш угнаення — большы ўраджай. Што тут рабіць? Павышаць культуру і земляробства, і самога земляроба. Уносіць хімічныя рэчывы, усведамляючы, што яны небяспечныя. Але зусім не ўжываць іх таксама пакуль немагчыма. Калі ж размова ідзе пра расліны, то вучоныя павінны выпрацаваць эфектыўныя і разнастайныя, бясшкодныя біялагічныя метады іх аховы. Зараз у нас яны выкарыстоўваюцца толькі на двух працэнтах усіх сельгасугоддзяў.

— Віктар Аляксеевіч, ці можам мы сёння гаварыць пра цэласную сістэму дзяржаўнай палітыкі ў галіне экалогіі?

— Можа, поўнасцю яна яшчэ і не склалася, але робіцца для гэтага нямала. Распрацавана праграма аздараўлення экалагічнай абстаноўкі. Яна была апублікавана ў друку. Створана спецыяльная экалагічная камісія на чале са Старшынёй Савета Міністраў рэспублікі М. Кавалёвым. Распрацоўваецца і каардынуецца падрабязная праграма «Экалогія». Галоўнае ў ёй — зніжэнне шкодных прамысловых выкідаў і пераход на «чыстыя» тэхналогіі. На рэспубліканскім узроўні яна павінна быць зацверджана да канца сёлетняга года.

**СУСТРЭЧА ДРУГАЯ. З віцэ-прэзідэнтам Беларускага экалагічнага саюза, кандыдатам біялагічных навук з Мінска Леанідам ТАРАСЕНКАМ:**

— Чаму быў створаны Беларускі экалагічны саюз? Каго ён прадстаўляе? Перш за ўсё таму, што ў рэспубліцы з'явілася даволі многа свядомых людзей, якія прыйшлі да думкі: калі наша прамысловасць, горадабудаўніцтва, сельская гаспадарка, будуць працягваць развівацца па-ранейшаму, без уліку мясцовых умоў, з недасканалай тэхналогіяй, настане такі час, калі чыстай вады, чыстага паветра нашым нашчадкам ужо не застанецца. Таму ў розных гарадах Беларусі пачалі стварацца самадзейныя, нефармальныя клубы, гурткі, суполкі. З'явіліся кааператывы экалагічнага накірунку.

— Як складваюцца ўзаемаадносіны БЭС з яшчэ адной значна больш сталай грамадскай арганізацыяй — рэспубліканскім таварыствам аховы прыроды. Ці не дублірує ваш саюз таварыства?

— На з'ездзе было 120 дэлегатаў ад Беларускага таварыства аховы прыроды. Яшчэ цяжка сказаць, як будуць развівацца адносіны паміж БЭС і БТАП. У рэшце рэшт, калі б таварыства добра працавала (выконвала сваю функцыю) на працягу больш, чым 20 год існавання, думаю не было б патрэбы ў стварэнні таго ж БЭС. Многія лічаць, што БТАП павінна самараспусціцца і ўліцца ў БЭС на аснове статута апошняга. Я асабіста так не думаю. Па-першае, манапалізацыя, як паказала практыка, да дабра не вядзе. Па-другое, сітуацыя сёння далёка не такая, як яшчэ гадоў 5-10 назад, і вельмі верагодна, што ў новых палітычных [illegible]овах БТАП з улікам сва[illegible] вопыту будзе працаваць лепш за БЭС. Што тычыцца адносін да дзяржаўных установ, то ў асноўных напрамках дзейнасці гаворыцца, што БЭС лічыць адным [illegible] сваіх абавязкаў падтры[illegible] дзейнасці дзяржаўных прыродаахоўных органаў, урачоў і сістэмы аховы здароўя ў цэлым.

— Я так разумею, пакуль пра канкрэтную дзейнасць БЭС гаварыць яшчэ рана?

— Так. Але наш саюз можна параўнаць з немаўляткам. Дайце яму акрыяць. Што тычыцца канкрэтнай дзейнасці БЭС, то, зразумела, яна будзе адначасова весціся ў розных кірунках. Мы лічым адной з прычын цяперашняга незайздроснага стану навакольнага асяроддзя перш за ўсё экалагічную неадукаванасць і, будзем казаць шчыра, бескультур'е. Таму праблему экалагічнага лікбезу і выхавання вызначаем адной з галоўных. У БЭСе ёсць дастаткова спецыялістаў высокага класа, якія змогуць стварыць дапаможнікі, падручнікі для карыстання на розных узроўнях.

Вялікая ўвага будзе надавацца пошуку і распрацоўцы сістэм ачышчэння сцёкаў і выкідаў прадпрыемстваў, маем намер стварыць нават свае кааператывы. БЭС будзе актыўна ўдзельнічаць у распрацоўцы дзяржаўных экалагічных праграм, а таксама ў публічных абмеркаваннях аб'ектаў гаспадаркі, якія плануюцца ці будуюцца. На шырокі і навуковы ўзровень мяркуем паставіць працы па азеляненню і аднаўленню лясоў. Неабходна стварыць і ўласны банк экалагічных праблем, без якога мы проста не зможам плённа працаваць. Ніводная , нават маленькая, на першы погляд, экалагічная праблема не павінна заставацца па-за ўвагай БЭС. Карацей, працы наперадзе шмат і яе хопіць на ўсіх.

**СУСТРЭЧА ТРЭЦЯЯ. З каардынатарам маладзёжнага клуба «Эколаг», загадчыкам аддзела Цэнтральнага Камітэта камсамола Беларусі Сяргеем ДАРОЖКАМ:**

— Ідэя клуба «Эколаг» нарадзілася ў Савеце маладых вучоных і спецыялістаў. Яе паглыбіў і падтрымаў камсамол. Зараз клуб існуе пры фінансавай падтрымцы навукова-тэхнічнага таварыства моладзі імя Машэрава ў Мінску (НТТМ) і пры ЦК ЛКСМБ.

— Калі грошы дае НТТМ, пры чым тут камсамол?

— Камсамол — арганізацыя ўплывовая, з добра аддаджанай структурай, сувязямі з дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі. І гэта пакуль вельмі важна і карысна для клуба. Але, магчыма, пазней што-небудзь і зменіцца.

— Гаспадарчаразліковае НТТМ укладвае свае грошы ў клуб толькі «за ідэю»?

— І «за ідэю» таксама. Экалагічныя хваробы небяспечныя для ўсіх. Тут ужо не да падлікаў, хто колькі грошай даў. Але тым не менш, і «Эколаг» не застаецца перад сваім спонсарам у даўгу. Па-першае, сярод нас шмат добрых спецыялістаў, якія могуць працаваць па заказах НТТМ, па-другое, ва ўсіх сваіх акцыях і мерапрыемствах мы імкнёмся рэкламаваць НТТМ.

— Дык, што ўжо зроблена «Эколагам»?

— Наш «паслужны спіс» невялікі. Але ж у ім ёсць дзве экспедыцыі. Летась даследавалі вытокі Нёмана, якіх сёння, на жаль, фактычна не існуе. Пабывалі каля Неманца, каля таго балотца, дзе нараджаецца рака. Усё навокал меліяравана. Але балотца пакуль захавася. Вось і вырашылі давесці да ладу тое месца, пракласці туды турыстычны маршрут. Сёлета новая экспедыцыя па Нёману. У яе арганізацыі, дарэчы, узяў удзел і наш Беларускі фонд культуры.

Зацікавіліся мы таксама праектам абвалавання Прыпяці. Яго першапачатковы варыянт быў спынены. Паўплывала грамадскасць, у тым ліку і клуб. Нядаўна да нас пазваніў кіраўнік праекта, сказаў, што гатовы новы варыянт, і прапанаваў яго на абмеркаванне ў «Эколагу». Гэта дзелавы падыход, каб развязаць складаныя экалагічныя вузлы.

— Ваша крэда — быць своеасаблівым экалагічным кантралёрам?

— Часткова. Бо мы не проста нешта адмаўляем. Але і прапануем у такім выпадку альтэрнатыўныя варыянты. Напрыклад, як ачысціць Свіслач. Або яшчэ адна гарачая кропка на экалагічнай карце Беларусі — Драгічын. Там павінны былі пусціць біяхімічны завод. На ім планавалася выпрацоўваць некалькі лячэбных і кармавых для жывёлы антыбіётыкаў. Увесну прайшла сапраўдная дыскусія, ці трэба гэта нам, рэспубліцы? У выніку завод будзе перапрафіляваны. Пытанне да канца не вырашана, але пакуль плануецца выпускаць тут аднаразовыя шпрыцы. Наш клуб прапанаваў разгледзець наогул мэтазгоднасць выкарыстання антыбіётыкаў для жывёлы. Наш банк экалагічных праблем папаўняецца вельмі хутка.

**Пра экалогію, яе праблемы сёння можна гаварыць бясконца. Яны побач з намі. І вось на сцяне дома чытаеш аб'яву пра экалагічны мітынг грамадскасці, вечарам у тэлевізійнай перадачы слухаеш парады спецыялістаў, што трэба рабіць, каб выправіць становішча, разгортваеш газету, а ў ёй чарговы трывожны сігнал новага экалагічнага бедства. Жыццё патрабуе: не праходзьце міма.**

Галіна УЛІЦЁНАК.

*СЛОВА ПРА СЯБРА*



# ДА АПОШНЯЙ ГАДЗІНЫ

Пайшоў з жыцця чалавек. З-за вялізнай адлегласці, якая аддзяляе нас ад Канады, мы даведаліся пра гэта са значным спазненнем. Аднак туга і цяжар страты не сталі ад гэтага меншымі.

Імя Уладзіміра Іосіфавіча Гаўрыцкага вядома многім зарубежным суайчыннікам не толькі ў Канадзе, дзе ён пражыў больш за шэсцьдзесят гадоў, але і ў іншых краінах. Добра ведалі яго і на Радзіме, куды ён прыязджаў як толькі з'яўлялася магчымасць.

Жыццё гэтага чалавека змясціла ў сабе цэлую гістарычную эпоху. У многім яно такое, як і ў тысяч беларусаў-эмігрантаў і разам з тым, дзякуючы асабістым якасцям гэтага чалавека, рэзка адрознівалася ад жыцця сярэдняга эмігранта. Уладзімір Гаўрыцкі быў чалавекам вельмі сардэчным і сумленным, ён не прымаў несправядлівасці і аддаваў усе сілы, каб змагацца супраць яе.

За час працяглай перапіскі з нашай рэдакцыяй Уладзімір Іосіфавіч не раз прысылаў фатаграфіі, якія адлюстроўвалі жыццё славянскай эміграцыі ў Канадзе. Яны маглі б стаць ілюстрацыямі да кнігі аб лёсе гэтага цудоўнага чалавека.

Нарадзіўся Уладзімір Гаўрыцкі ў 1907 годзе ў мястэчку Шарашова на Брэстчыне. Бацька быў селянінам, падрабляў на лесараспрацоўках. Магчыма неяк і склалася б жыццё Уладзіміра на роднай зямлі, але адбыліся вялікія гістарычныя падзеі, якія змянілі лёс усіх беларусаў. Адны будавалі новае жыццё ў сваім краі, іншыя апынуліся пад прыгнётам Польшчы. Уладзімір Гаўрыцкі адкрыта выступаў супраць прыцяснення беларусаў, некалькі разоў сядзеў у турме. Гэта, а яшчэ цяжкія эканамічныя ўмовы, прымусілі яго пакінуць Радзіму.

У 1928 годзе Уладзімір Гаўрыцкі прыехаў у Канаду і ўліўся ў рады тысяч эмігрантаў, што рынуліся ў пошуках лепшай долі за акіян. Але і тут не было лёгка, давялося паспытаць многае. Быў беспрацоўным, лесарубам, рыбаком, працаваў на верфях цесляром і партовым грузчыкам. З самага пачатку жыцця ў Канадзе Уладзімір Гаўрыцкі актыўна ўключыўся ў рабочы рух, быў членам прафсаюза, Камуністычнай партыі Канады, актывістам прагрэсіўнай арганізацыі суайчыннікаў — Федэрацыі рускіх канадцаў.

Сухія радкі біяграфіі не дазваляюць поўнасцю ахарактарызаваць чалавека, не могуць вытлумачыць, чаму мы зведваем да яго пачуццё глыбокай павагі і ўдзячнасці, чаму ўспрымаем яго смерць як вялікую страту.

Перабіраю фатаграфіі, успамінаю нашы сустрэчы з Уладзімірам Іосіфавічам на Беларусі. У 1985 годзе яго запрасілі на святкаванне 40-годдзя Перамогі над фашызмам у Мінск. Ён расказваў, як у гады грамадзянскай вайны ў Іспаніі ў радах пехацінцаў інтэрнацыянальнага батальёна імя Макензі-Папіна змагаўся на перадавой. Запомніліся яго словы: «Калі я быў ранены і па трупах сваіх таварышаў выпаўзаў з поля бою, я пакляўся перад імі, што, калі застануся жывы, прыкладу ўсе свае сілы для таго, каб войны на зямлі назаўсёды спыніліся, прысвячу гэтаму ўсё сваё жыццё да апошняй гадзіны. Мой удзел у барацьбе за мір я разглядаю як пасільны ўклад у вялікую агульную справу з усведамленнем таго, што толькі ва ўмовах міру магчыма будучыня ўсяго чалавецтва». Гэтую сваю клятву Уладзімір Гаўрыцкі стрымаў. Да самых апошніх дзён ён актыўна ўдзельнічаў у руху за мір, збіраў сродкі для правядзення антываенных акцый, на падтрымку прагрэсіўных газет «Трыбюн» і «Веснік».

Успамінаецца яшчэ адна сустрэча з Уладзімірам Іосіфавічам у яго родным Шарашове. Менавіта тады я зразумеў, як гэты чалавек любіць сваю Радзіму, наколькі адданы ёй. Ён вадзіў мяне па вуліцах пасёлка сказваў гісторыю Шарашова, з гонарам гаварыў пра тое, як змянілася жыццё яго землякоў. «Няма для мяне большага шчасця, чым зноў прайсціся па сцежках, па якіх у дзяцінстве бегаў басаногім пастушком», — гаварыў Уладзімір Гаўрыцкі. Сваю глыбокую любоў да Радзімы ён справамі даказаў у далёкай Канадзе. Перада мной фатаграфія — Уладзімір Іосіфавіч стаіць з групай таварышаў ля грузавіка, нагружанага скрынямі. На адвароце надпіс: «1943 год. Адпраўляем сабраныя намі адзенне і медыкаменты ў Савецкі Саюз». Уладзімір Гаўрыцкі быў адным з арганізатараў прагрэсіўнага руху суайчыннікаў у Ванкуверы, прыклаў велізарныя намаганні для таго, каб адкрыць у горадзе Рускі народны дом. Дзейнасць арганізацыі камусьці не падабалася, у Рускім народным доме бывалі выбухі, яго хацелі знішчыць, але, нягледзячы на ўсе пагрозы, дом гэты суайчыннікі аднаўлялі. Вось пра што напісала нам у пісьме жонка Уладзіміра Іосіфавіча Марыя Рыгораўна: «Мой муж быў шчырым, адданым рабочаму руху чалавекам, патрыётам сваёй Радзімы. І ён заўсёды гаварыў: «Калі я памру, няхай мяне хаваюць з Рускага народнага дома Федэрацыі рускіх канадцаў, бо я прысвяціў ім маё жыццё, сэрца і душу». Мы выканалі яго просьбу. Гэта было адно з самых шматлюдных пахаванняў у Ванкуверы. На ім прысутнічала больш пяцісот чалавек, выступалі прадстаўнікі ФРК, арганізацыі ветэранаў вайны ў Іспаніі, кампартыі Канады, прагрэсіўных газет, для якіх ён збіраў сродкі».

Уладзімір Іосіфавіч Гаўрыцкі заслужыў павагу сваіх суграмадзян у Канадзе, яго справы цэняць і памятаюць. Помняць яго і на Радзіме. Перакананым барацьбітом за мір, справядлівым чалавекам, шчырым патрыётам, да канца адданым сваёй любай Беларусі, назаўсёды застанецца ён у нашых сэрцах.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

**НА ЗДЫМКУ: У. ГАЎРЫЦКІ (злева) на Радзіме.**

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# ВІТАЮ ТАКУЮ ПАЛІТЫКУ

Дарагія сябры, супрацоўнікі рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»! Я шчыра дзякую вам за тое, што маю магчымасць рэгулярна чытаць вашу газету і малю Бога, каб ён узнагародзіў вас за вашу працу. Газету чытаю ўжо вельмі даўно, хоць у апошні час рабіць гэта ўсё цяжэй. Дае адчуць сябе ўзрост, слабее зрок. Раней я вам не пісаў, хоць і хацелася паспрачацца па некаторых пытаннях. Мне падабалася, як вы расказвалі пра жыццё ў Беларусі, пра тое, як там ўсё мяняецца. А не падабаліся вашы адносіны да Бога і да веруючых. Хоць і гаварылася, што верыць у вашай краіне нікому не забаронена, усё ж да веруючых адносіліся дрэнна. І вось, нарэшце, дачакаліся і мае браты і сёстры на Радзіме светлых дзён. У апошні час у нас тут вельмі шмат пішуць аб перабудове ў вашай краіне. Ваш лідэр Гарбачоў — адна з самых папулярных фігур. Мы бачым, што ў вас вельмі многае мяняецца. Але мяне асабліва радуе, што мяняюцца адносіны да веры. Я бачу, што цяпер свабода сумлення ў вашай краіне існуе рэальна. Даведваюся з газет, што рэстаўрыруюцца шмат цэркваў, адкрываюцца новыя, кіраўніцтва краіны прымае кіраўнікоў царквы, царкоўнаслужыцелі выбіраюцца ва ўрад. Я вітаю такую палітыку і ўпэўнены, што яна прынясе толькі карысць нашай Радзіме. Веруючыя будуць з разуменнем і ўдзячнасцю працаваць на яе карысць. Ну а тым, хто па сваіх перакананнях атэіст, гэта таксама шкоды не прынясе. Царква вучыць дабру, дружбе, узаемапавазе і цярпімасці. Акрамя таго, яна — захавальніца велізарных культурных і духоўных каштоўнасцей, якія належаць усяму народу. Вельмі рады, што духавенства ўсё больш актыўна прымае ўдзел у жыцці краіны.

Вітаю такую перабудову і жадаю вам у ёй усялякіх поспехаў. Хай благаславіць вас Гасподзь!

**Сяргей ДЗЮБА.**

Канада







**Пісьмо з Канады ад Сяргея Дзюбы «Вітаю такую палітыку» і здымкі фотакарэспандэнта Аляксандра Шаблюка, змешчаныя пад ім, сышліся на адной газетнай паласе выпадкова, але, як нам здаецца, вельмі дарэчы.**

**Абодва гэтыя матэрыялы — погляд на нашу рэчаіснасць здалёку, з-за мяжы, і падзеі, адлюстраваныя беларускім фотажурналістам, сведчаць аб зменах, што адбываюцца ў жыцці савецкага грамадства, аб новым падыходзе да з'яў і да асвятлення тэм, якія доўгія дзесяцігоддзі знаходзіліся пад забаронай.**

**Кожны чалавек — гэта цэлы свет, адметны, непаўторны, са сваімі думкамі і поглядамі. Ці маральна патрабаваць, каб усе ў грамадстве думалі аднолькава! Датычыць гэта і рэлігіі. Большасць з нас, савецкіх людзей, атэісты. Але ж той, хто хоча маліцца, выконваць рэлігійныя абрады, павінен мець такую магчымасць. Права на свабоду сумлення, веравызнання запісана ў Савецкай Канстытуцыі. А ці заўсёды гэта права было падмацавана рэальнымі фактарамі, палітыкай дзяржавы!**

**Здаецца, у наш час веруючыя людзі ў Савецкай краіне могуць уздыхнуць з палёгкай. Адкрываюцца занядбаныя храмы і нават будуюцца новыя, дзе ёсць у гэтым патрэба.**

**Нашы здымкі зроблены ў беларускай вёсцы Нарач Мядзельскага раёна. Царква святога Ільі была пабудавана тут у 1865 годзе. Не шанцавала гэтай пабудове: яна гарэла ў першую сусветную вайну, другі раз у 1934 годзе, а ў 60-я яе закрылі і, вядома, яна падверглася частковаму разбурэнню. Некалькі гадоў назад мясцовыя жыхары вырашылі аднавіць царкву. У вёсцы створана рэлігійная грамада, якую ўзначальвае Антон Грыб, былы ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны, цяпер пенсіянер. Веруючым далі дазвол на аднаўленне і адкрыццё царквы, і цяпер прыхаджане самі будуюць і аздабляюць храм.**

**НА ЗДЫМКАХ: Антон ГРЫБ; праца па аднаўленні царквы ў вёсцы Нарач.**

## ПРИВЕТ ИЗ ПРИМОРЬЯ

# ПАМЯТЬ О РОДИНЕ

Я родился и прожил большую жизнь на Дальнем Востоке. Но мои предки по материнской линии родом из Белоруссии.

С давних времен семья Агеенковых жила в селе Глыбоцком Гомельского уезда Могилевской губернии. Они были крепостными крестьянами у помещика Паскевича. Мой прадед Петр Иванович Агеенко, 1796 года рождения, служил в армии. Служба тогда была, что каторга, 25 лет. Но солдату повезло: на двадцать первом году его службы в царской семье родился сын. По этому случаю солдатам сократили срок службы, засчитывали месяц за год. Так оставшиеся пять лет он отслужил за пять месяцев. Вернулся домой полным георгиевским кавалером. Женился, заработал кое-какие деньги, построил избу на краю села, в песках. Детей у него было трое, все сыновья. На сыновей дали землю. Зажили лучше. Сыновья Григорий, Иван и Ананий (мой дед) были мастеровыми людьми, плотниками, каменщиками. Зимой они ходили на заработки в города. Там они имели связь с революционерами - подпольщиками, участвовали в забастовках, даже в тюрьме сидеть приходилось за участие в демонстрациях.

Когда после разгрома первой русской революции 1905 года начались репрессии, подпольная организация была раскрыта, Агеенковы какимто путем получили документы на другую фамилию — Моисеевцевых. С этими документами они без промедления уехали на Дальний Восток в начале 1907 года. Григорий Петрович уже бывал на Дальнем Востоке в русско-японскую войну. Он рассказывал, что там можно жить не хуже, а даже и лучше, чем в России. Из Глыбоцкого еще уехали семьи Николаенковых, Борисенковых, кажется, еще кто-то. Ехали по Китайской Восточной железной дороге, 4 месяца добирались. Выбрали совершенно необжитое место в 30 верстах от Имана. Лес, луг, река, сопки. Основали село, назвали его Семеновкой (сейчас этого села нет). Писем на родину не писали, боялись, что разыщет полиция.

Дед Ананий в пути заболел тифом и умер, немного не доехав до места. Через 2 года умерла его жена, моя бабушка. Моя мама, её братья и сестры остались сиротами. А их было 6 человек. На новом месте обживаться трудно, да еще после такого долгого пути. У Григория и Ивана были свои семьи, да ещё долгожитель Пётр Иванович с бабкой, да куча сирот от Анания. С трудом удалось троих из них устроить в приют в Хабаровске. Моя мама была в числе их. В Хабаровске мама окончила 7 классов, потом в Имане работала горничной у нотариуса. Вернулась в Семеновку, вышла замуж за моего отца — учителя.

Прадед Пётр Иванович прожил 117 лет. Он был непьющий, некурящий, набожный человек. Ни разу в жизни не болел. Ежегодно в праздник Крещения окунался в прорубь в реке. В 1913 году произошло наводнение, что нередко случается в Приморье. Все село затопило. Старик увидел, что плывут стога сена, ульи с пчелами, плывет скот, он подумал, что это всемирный потоп. Очень расстроился и умер.

У моих дядей и теток были многодетные семьи. Я с помощью родственников нарисовал генеалогическое дерево, начиная от Петра Ивановича. В нем оказалось 140 веточек. Больше половины из них — ныне здравствующие. В основном живут в Приморском крае. Только у нас разные фамилии.

А вот по отцовской линии мне не повезло. У отца в Ульяновской области тоже были братья и сестры. Но, кажется, уже нет никого из их наследников. Всех побрала война. Так что род Ляховых продолжается только здесь, на Востоке.

В прошлом году моя дочь Татьяна побывала в Белоруссии. Гостила в селе Глыбоцком. Узнала, что там до сих пор существует фамилия Агеенковых, многие из них живут в других местах. Это все наши далекие родственники.

Через вашу газету я передаю большой привет всем Агеенковым, кто родом из Глыбоцкого. Память о далекой родине жива и передается из поколения в поколение.

**Леонид ЛЯХОВ.**
Приморский край.

---

## *ИМЕНА НА ГЕОГРАФИЧЕСКОЙ КАРТЕ*

# ВОЗВРАЩАТЬ ИЛИ НЕ ПЕРЕИМЕНОВЫВАТЬ?

**С предложением о возвращении исторических названий десяткам городов страны, многие из которых сейчас носят имена деятелей партии, государства, культуры, выступил Совет по топонимии, созданный год назад при Советском фонде культуры (СФК)...**

### МОЖНО ЛИ ПЕРЕПИСАТЬ ЗАНОВО ИСТОРИЮ?

Переименования в честь деятелей партии и государства начались в СССР уже в 20-х годах. С укреплением в стране культа Иосифа Сталина переименования топонимов стали массовыми. В соответствии с политической конъюнктурой на карте страны то появлялись, то исчезали имена его фаворитов. «Сегодня, в эпоху перестройки, мы еще продолжаем жить среди пространственно-географических вех, расставленных «отцом народов», — считает Владимир Нерознак, доктор филологии, председатель Совета по топонимии.

На карте СССР существует 150 наименований, образованных от фамилии Киров, 100 — от фамилии Калинин, 40 — от фамилии Куйбышев. В СССР 30 больниц носят имя первого советского министра здравоохранения. Центральные площади городов, разделенных сотнями километров, имеют одни и те же имена: Революции, Ленина, Советов, Маркса. Социологи с удивлением обнаружили, что в городах России повторяется до 70 процентов названий улиц. В Туркмении две трети топонимов утеряли свои названия, причем большинство «новоделов» образовано от слов и фамилий русского языка.

Культовой моделью топонимии называют ученые сложившиеся «святцы» на карте страны. Мы пожинаем плоды того, что слишком долго воспринимали произведения искусства, литературные творения, традиционные обряды, да и имена, не как памятники истории и культуры страны, а как способ пропаганды чего-либо, идеалов или образа жизни.

### ЖДАНОВ И АНДРОПОВ

И после смерти Сталина продолжалось превращение карты в некрополь. Последняя по времени волна таких переименований прошла после смерти Брежнева и Черненко. Усилиями общественности сейчас всем «пострадавшим» в ходе этой кампании топонимам возвращены исторические имена. Кроме того, после многократных выступлений жителей Жданова (Жданов — один из соратников Сталина, известный как гонитель советских деятелей культуры) городу было возвращено историческое имя Мариуполь. Шоссе имени Суслова в Москве перестало носить фамилию этого партийного идеолога эпохи застоя. Что стоит за перечисленными фактами, только ли новая оценка деятельности политиков? Почему же в таком случае город Андропов (Юрий Андропов — глава партии и государства в 1982-84 годах, пользующийся большим уважением в стране) вновь стал Рыбинском?

«Речь идет не о том, чтобы привести имена на карте в соответствие с оценками политических словарей, по иному р[illegible]пив всех на «достойных» и «[illegible]стойных», — считает Михаил Горбаневский, заместитель председателя Совета по топонимии. — Вряд ли стоит в принципе превращать географическую карту в пантеон. И уж, во всяком случае, не стоит для у[illegible]овечения какой-либо личности ун[illegible]кать уже существовавшее назва[illegible]е. Топоним — это не средство пропаганды, а прежде всего памятник культуры и истории. Название Рыбинск хранит память о рыбной слободе, появившейся на Волге еще в 1152 году. А имя Андропова мог бы носить, скажем, океанский лайнер».

Одна из самых деликатных проблем, поднятых в последнее время гласностью, — топонимическая лениниана. Обычно изобилие имени Ленина на карте не обсуждалось даже в лингвистических дискуссиях: не бросит ли это тень на вождя. Однако стоит вспомнить, что при жизни Ленина в его честь была переименована лишь одна площадь в Москве по инициативе жителей района. После смерти Ленина Сталин своеобразно воспользовался его именем, чтобы увековечить свое: он переименовывал города парами — один в честь Ленина, а рядом в свою честь. Среди городов, потерявших в этой кампании свое название, один из древнейших городов СССР Ходжент, известный еще со времен Александра Македонского. Кто потеряет от того, что Ленинабад вновь станет Ходжентом? Ученые считают сегодня необходимым вернуть древние имена топонимам, которые носят имя Владимира Ленина.

СФК выступает за возвращение исконных названий многим городам страны, известным с 9—14 веков, невзирая на то, что ныне они носят имена ничем не скомпрометировавших себя людей.

### СКОЛЬКО СТОИТ НАЗВАНИЕ ГОРОДА?

Первые шаги по возвращению исторических имен городов и улиц показали, что «топонимическая революция» встречает неожиданно мощное сопротивление.

В Горьком в течение года проходили демонстрации и сборы подписей за возвращение городу исторического названия Нижний Новгород. Инициативная группа социологов СФК в опросах выявила, что переименования хотят 90 процентов жителей.

Однако при обсуждении этого вопроса городское руководство заявило, что переименование обойдется городскому бюджету в 50—60 миллионов рублей. «Что лучше, сменить вывеску или построить новый жилой массив?» — был задан депутатам горьковского Совета вопрос, и переименование было отложено.

Так сколько же стоит [illegible]ереименование города? — задум[illegible]ь эксперты СФК. По их подсч[illegible]м, стоимость возвращенного имени города — около 300 тысяч. Эти средства дал бы один субботник в Горьком. «За сопротивлением городских властей стоит, я считаю, исключительно нежелание исполнять во[illegible] жителей, привычка ориентиров[illegible] только на указания «сверху», а в некоторых случаях сознательное нежелание десталинизировать карту страны», — считает Владимир Нерознак.

### КАК ИЗБЕЖАТЬ ОШИБОК В БУДУЩЕМ?

Можно понять максимализм первых послереволюционных лет, когда детей называли Трактором, Милицией, Электрификацией, а Царские улицы переименовывали в Пролетарские. Энтузиастам тех лет казалось, что стоит начать новое летоисчисление и прошлое перестанет существовать.

Увы, новые названия получали не только новые города и кварталы, но и древние, известные по летописям, вошедшие в историю объекты. Эпидемия переименований, бушевавшая тогда в стране, стерла с географической карты больше названий, чем исчезло за века российской истории. Современный житель страны не может воспользоваться географическими картами начала века, не ориентируется на страницах классических произведений.

Исправить положение, не допустить повторения ошибок поможет специальный законодательный акт об охране имен и названий на карте, считают члены Совета по топонимии. Такой закон должен придать топонимам статус памятника культуры, которым уже обладают архитектурные сооружения, кинофотодокументы, рукописи. В основу правового акта должны лечь выработанные учеными рекомендации. Это, прежде всего, принцип «новое имя новому объекту». Закон должен выступить против насильственной интернационализации названий, рекомендовать сохранение национальных языковых форм при наименовании. Актуальные сегодня вопросы переименований должны решаться в каждом конкретном случае жителями населенного пункта. Думаю, что компетентность специалистов и широкая информация для всех граждан — достаточные гарантии взвешенного решения назревшей проблемы.

**Оксана ПЕТРУНЬКО.**
(АПН).

---

# НА ЭКСПОРТ— КОМПЬЮТЕРНЫЕ ПРОГРАММЫ

Оригинальное советское компьютерное обеспечение в скором будущем появится на рынке США.

Рассчитанные на несовершенные советские «Пи-Си» и потому вдвойне продуманные, компактные и надежные советские программы, по свидетельству многих западноевропейских пользователей, работают на компьютерах IBM и AppLe, как правило, лучше многих японских и американских программ. На это и делают ставку советский кооператив «Глайдер» и компания «Хол энд дор», создающие в СССР совместное предприятие, ориентированное на американский рынок.

Произвести в СССР программный продукт, конкурентоспособный в США, и реализовать там свои пакеты прикладных программ — задача, которая пока едва ли под силу даже передовым программистам «Глайдера». Однако они не сомневаются в успехе при условии, что американский партнер поможет им в модернизации используемого технического оснащения и анализе текущей ситуации на рынке программного обеспечения.

«По моим личным знакомствам с людьми, которые занимаются компьютерами, я знаю, насколько быстро те, кто обучался здесь, начинают работать на американском уровне, т. е. я уверена в квалификации людей, которые работают здесь, в Москве», — говорит Вероника Новодворская, американский эксперт по советско-американским связям в области программного обеспечения и компьютерной технологии, консультирующая заинтересованные фирмы США.

С другой стороны,— продолжила она, — я знаю, что у них недостаточно средств для выполнения этой работы на мировом уровне. Но нужно заинтересовать людей и дать им возможность работать, и тогда отдача будет огромная, и не только в экономическом отношении».

О профессиональной подготовке программистов «Глайдера» говорит их победа во всесоюзном соревновании шахматных программ, которые сами по себе являются своего рода визитной карточкой программиста. «Конек» «Глайдера» — создание технологий защиты любых программ от нелегального копирования. Последнее может заинтересовать фирмы, экспортирующие программное обеспечение в стране «третьего мира».

К величайшему сожалению членов «Глайдера» и семи-восьми московских кооперативов сходного с ним профиля, их развитие, причем не только экономическое, но и профессиональное, сдерживается отсутствием компьютерной связи друг с другом, сколь-либо крупных банков данных, а то и просто недостатком общения друг с другом. Из этой незавидной ситуации они рассчитывают выйти, создав в ближайшее время коммерческий союз программистов-кооператоров со свободным входом и выходом из него. Объединенные средства союза, по мнению Георгия Бухарова, председателя «Глайдера», позволят его членам в короткий срок ликвидировать техническое отставание от Запада.

**Михаил СИГОВ.**

НАША СПАДЧЫНА

# СТАРАБЕЛАРУСКІЯ СЛОЎНІКІ — ПОМНІКІ ЛЕКСІКАГРАФІЧНАЙ КУЛЬТУРЫ XVI СТАГОДДЗЯ

ПЕРШЫЯ пуцявіны айчыннай лексікаграфіі пачаў пракладваць Францыск Скарына тлумачэннем этымалогіі біблейскіх імёнаў і назваў у сваіх прадмовах, а таксама ўвядзеннем на «боцех» друкаваных кніг «глосаў» — перакладам на простую мову незразумелых старaславянскіх слоў. Пасля практыкі Скарыны «глосы» сталі традыцыйнымі ў кніжнай справе. Пазней патрэбы чытача задавальнялі несамавітыя тлумачальныя азбукоўнікі, прыточнікі, якія звычайна дадаваліся ў канцы тэкстаў старадрукаў і насілі прыкладны характар.

Аднак ужо ў канцы XVI стагоддзя з'яўляецца «Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста», па сутнасці адна з першых ва ўсходніх славян спроба прафесійнага тлумачальна-прыкладнога слоўніка. Стваральніка гэтага параўнаўча невялікага, недзе на 908 няпоўных тлумачальных пар, слоўніка мы з поўнай падставай маглі б называць у ліку пачынальнікаў нашай лексікаграфіі. На жаль, слоўнік да гэтай пары знаходзіцца ў рэестры ананімных.

На доўгі час «Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста» выпаў з поля зроку даследчыкаў. Толькі ў 1884 годзе архімандрыт Амфілохій адшукаў рукапіс слоўніка, які быў укладзены ў астрожскую «Біблію» Івана Фёдарава і, перавёўшы яго на графіку XIX стагоддзя, апублікаваў у матэрыялах «Чтения в обществе истории и древностей российских при Московском университете».

Паводле гэтай знаходкі аўтарства яго і лічылася за І. Фёдаравым. Але пазней сумеснае адшуканне «Лексіса... проста» са старадрукам «Біблії» Фёдарава вучоныя палічылі недастатковай падставай у карысць аўтарства славутага друкара.

**І самы першы аргумент— цалкам беларускі склад лексікі тлумачальнай часткі слоўніка. «Лексіс... проста», відаць, з-за ананімнасці ў нечым занядбаны нашымі гісторыкамі мовы, у прыватнасці, амаль не даследавана яго беларуская лексічная аснова. А слоўнік жа сапраўдная скарбніца старабеларускага слова!**

**Зыходзячы з беларускага складу «Лексіса... проста» можна дапусціць, што яго аўтарам быў Лаўрэнцій Зізаній. Такое меркаванне выказалі некаторыя вучоныя.**

**І ўсё ж у ранейшай, хоць і аўтаматычна прынятай версіі, якая звязвае аўтарства «Лексіса... проста» з імем І. Фёдарава, на нашу думку, больш аргументаў «за». Па многіх прыкметах, напрыклад, як вытлумачэнне ўласных імён і геаграфічных назваў, «Лексіс... проста», мяркуючы па ўсім, складаўся як прыточнік да нейкага канкрэтнага тэксту старадрукаванага выдання. І да яго складання мог мець дачыненне меназіта Іван Фёдараў ці нехта іншы з вядомых выкладчыкаў Астрожскай акадэміі, але ніяк не Зізаній.**

Што ж датычыцца цалкам беларускага лексічнага складу слоўніка, то і тут, думаецца, супярэчнасці асаблівай няма. Проста беларускі перыяд дзейнасці славутага выхадца з нашай старонкі, амаль не даследаваны, вучоныя па-сапраўднаму ім яшчэ не цікавіліся.

РАЗГАДКА гэтага пытання прывяла мяне ў старажытны Львоў, дзе прыжыццёвыя выданні І. Фёдарава прадстаўлены найбольш поўна. Гартаючы старонкі Фёдараўскіх старадрукаў, колькі я адкрыла для сябе невядомага, што не змагла (ці не паспела) знайсці па даведачных крыніцах тут, у Мінску. На свае вочы бачу яго «Буквар», «Граматыку», «Азбуку», старанна звяраю шматлікія паўторныя выданні іх. І зусім па-новаму пачынае бачыцца постаць нашага земляка. Старaславянскі тэкст яго лінгвістычных прац, як і ў Зізанія, нярэдка перасыпаны мясцовымі, беларускімі словамі, выразамі, увогуле фанетычнымі асаблівасцямі мовы Вялікага княства Літоўскага.

Пра павагу да роднай мовы, пра патрыятычныя пачуцці да зямлі, якая яго ўзгадавала, яскрава сведчыць абавязковае змяшчэнне ім у канцы кожнай сваёй кнігі вольнай інтэрпрэтацыі вядомага трактата «О письменах» Чарнарызца Храбра. І тут жа фёдараўскі палымяны заклік: «Хвалите Господа вси языци и похвалите его вси людие. А не едиными тремя письмены, а языки, яко ж они баснословят».

Змяшчэнне ў выданнях І. Фёдарава твора X стагоддзя, у якім сцвярджаецца права славян на сваю кніжнасць, набывала вострае грамадска-палітычнае гучанне, было першай рэакцыяй на пракаталіцкія арыентацыі Пятра Скаргі.

Тут Іван Фёдараў салідарны з Францыскам Скарынай — даць «люду паспалітаму» кнігі Святога Пісання на блізкай і зразумелай яму мове. У сувязі з распачатымі езуітамі акаталічваннем і апалячваннем на Беларусі і Украіне Фёдараў як паслядоўны праваслаўны, у ліку многіх дзеячаў брацкіх школ, усяляк імкнецца падкрэсліць адзінства ўсходне-славянскіх зямель, роднасць Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай Руссю. Адсюль яго справа жыцця — шырока далучыць праваслаўнае насельніцтва да старaславянскай мовы праз выданне на ёй царкоўных кніг. Хаця ў рускай жа дзяржаве працы І. Фёдарава, як і яго папярэдніка Скарыны, напачатку былі прызнаны ерэтычнымі з-за вядомай рэлігійнай талерантнасці выдаўцоў і элементаў мясцовай мовы ў іх выданнях.

У львоўскіх пошуках, прызнацца, была надзея, што мне ўдасца адшукаць «Лексіс... проста» ў дадатку да фёдараўскай «Азбукі», як звычайна друкаваліся слоўнікі ў той час. Прагледжаны ўсе выданні — ніякага следу.

**Дзіўна, чаму пра «Лексіс... проста» маўчаць даследчыкі старых часоў, у прыватнасці, такія вядомыя славісты як Й. Добраўскі, што за набыццё астрожскай «Бібліі» Фёдарава абяцаў палову сваёй бібліятэкі, ці яго сябра В. Капітар, у якога Добраўскі знаёміўся з гэтым выданнем. З іх матэрыялаў мы і сёння здабываем найцікавейшыя звесткі пра Францыска Скарыну, пра малавядомую «Граматыку...» Івана Ужэвіча, нарэшце, пра «Лексіс» Зізанія, які яны высока ацэньвалі як адзін з першых крокаў усходнеславянскай лексікаграфіі.**

**І ўсё ж вядомыя нам даныя не даюць падстаў для канчатковага вырашэння пытання аб аўтарстве «Лексіса... проста» ні ў карысць Л. Зізанія, ні нават у карысць І. Фёдарава.**

**Але пакуль што рана закрываць праблему. Раней мы ўстанавілі прыточнікавы характар слоўніка. І гэта дае зусім нечаканы накірунак пошукам. У слоўніку ёсць адна важная для нас асаблівасць: значная частка тлумачальных пар даецца ва ўскосных склонах, у розных формах спражэнняў, характэрных спалучэннях слоў, гэта значыць, так, як яны ўжыты ў тэксце кнігі, да якой слоўнік прыдаваўся. Зверка яго з тэкстамі, найперш выданняў Івана Фёдарава, найбольш верагоднага аўтара, павінна пацвердзіць ісціну.**

«Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста» ўяўляе сабой пераход ад помніка прыточніка-азбукоўнікавага характару нават яшчэ з элементамі скарынінскага «гласарыя» (Апостол—посланникъ, Анна—благодать, Аданай—Господь, астра—звезда).

Слоўнік застаецца для нас не толькі фактам гісторыі мовы, ён можа паслужыць неблагім дапаможнікам пры чытанні тагачасных усходнеславянскіх кніг, напісаных на старабеларускім варыянце царкоўнаславянскай мовы.

ДА ЛІКУ выдатных помнікаў лексікаграфічнай культуры XVI стагоддзя належыць і «Лексіс» Л. Зізанія (Тустаноўскага), аднаго са славутых піянераў усходнеславянскай лінгвістыкі.

Доўгі час у нашым айчынным мовазнаўстве «Лексіс» Л. Зізанія недаацэньваўся. Думаецца, што і па сённяшнюю пару мы не адвялі яму належнае месца ў нашай лексікаграфіі, у даследаваннях па ўсходнеславянскай гістарычнай граматыцы.

**Пры сённяшнім навуковым прачытанні «Лексіса» Л. Зізанія, як аднаго з найкаштоўнейшых помнікаў старабеларускай лексікаграфіі, нам хацелася б перш за ўсё звярнуць увагу на адну яго істотную асаблівасць, недастаткова, на нашу думку, вытлумачаную ў папярэдніх даследаваннях. Мэту, якую ставіў перад сабой аўтар, вытлумачвае сама назва слоўніка: «ЛЕКСІС».**

**У «Лексісе» Л. Зізаній не проста дае тлумачэнне незразумелых слоў, суправаджаючы адпаведнымі граматычнымі паметамі кожны лексічны нумар з кніг «свяшчэннага пісання», чым абмяжоўвалася лексікаграфія ў сваім тагачасным зародкавым стане. Слоўнік упершыню ставіць перад сабой нацыянальна ўсвядомленую задачу—праз слоўнік, а менавіта праз яго перакладную частку, дапамагчы вучням брацкіх школ авалодаць простай народнай мовай. Л. Зізаній, як педагог, зразумеў, што напачатку навучання неабходна невялічкая кніжка. Такому прызначэнню па тым часе, разам з «Азбукай» і «Граматыкай», і адпавядаў слоўнік, з якіх вучні маглі б засвоіць асновы народнай гаворкі і праз роднае слова здабыць веды аб навакольным свеце. У гэтым сэнсе «Лексіс» Л. Зізанія не столькі перакладае з царкоўнаславянскай, праз авалоданне якой праходзіла асвета ў той час, колькі вучыць роднай мове.**

Наколькі навучанне народнай мове і ўкараненне яе ў практыку моўных зносін было для Л. Зізанія глыбока ўсвядомленай задачай, не менш красамоўна сведчыць і тое, што вучоны не саромеецца даць волю «мясцоваму» простаму слову і ў сваіх навуковых працах.

Беларуская мова ў слоўніку Зізанія—гэта жывая бурная рэчка ва ўсёй паўнаце яе глыбінных і паверхневых плыняў. У «Лексісе» багаслоўска-філасофская лексіка з яе строгім лагічным складам змяняецца моўнымі звесткамі аб гісторыі і дзяржаве, лексіка мастацтва суседнічае са звесткамі пра жывёл і сельскагаспадарчымі тэрмінамі. У слоўніку не толькі прадстаўлена агульнаўжывальная лексіка Сярэднявечча, у ім, як у люстэрку, адбіліся дасягненні і высокі гуманізм эпохі Адраджэння. Мы даведваемся, што людзі ўжо атрымліваюць медыцынскую дапамогу, ведаюць дакладныя навукі «на патрэбу рамяству і гандлю». У эпоху Адраджэння змяніўся і сам чалавек—ён па-новаму зірнуў на свет, убачыў новыя існасці жыцця. Уражвае і высокі ўзровень лагічна-абстрактнага выказвання ў старабеларускай мове.

«Лексіс» Л. Зізанія, безумоўна, з'яўляецца якасна новым этапам у развіцці беларускай і ўвогуле ўсходнеславянскай лексікаграфіі. Калі «Лексіс... проста» працягваў традыцыі слоўнікаў прыточнікавага характару, што бяруць свой пачатак ад «Толкования неудобь познаваемом в писаных речем...» да сачыненняў Іаана Лествічніка (1413 г.), то «Лексіс» Л. Зізанія сумясціў у сабе рысы самасцікона («толкователя имён») і азбукоўніка, паяднаўшы ўласна лінгвістычныя каментарыі з багаслоўскімі і філасофскімі экскурсамі.

НАЙЦІКАВЕЙШЫМ лексікаграфічным помнікам старабеларускай мовы з'яўляецца і «Сінонімa славенароская». Вучоныя адносяць яе да XVII стагоддзя, пары нашай агульнай з украінцамі моўнай супольнасці. Гэта, магчыма, адзін з самых апошніх помнікаў беларуска - украінскай этнічнай еднасці. Вядома, еднасці ў тагачасным яе значэнні, бо сучасных каларытна ўкраінскіх слоў у «Сіноніме...» не так ужо і шмат.

Але калі мы ведаем час напісання і месца выдання «Лексіса» Л. Зізанія і «Лексікона» П. Бярынды, можам будаваць гіпотэзы адносна аўтарства «Лексіса з талкаваннем славенскіх моў проста», звязваючы яго з імёнамі І. Фёдарава ці Л. Зізанія, ці, магчыма, кагосьці з выкладчыкаў Астрожскай школы, то пра «Сіноніму славенароск[illegible] час да нас амаль не данёс[illegible]га.

Страчана імя яе складальніка, мы не маем ніякіх звестак пра яго жыццё і дзейнасць, адсутнічаюць матэрыялы, якія маглі б растлумачыць нам, з якой нагоды быў напісаны слоўнік.

Здавалася: усе звесткі страчаны, але захавалася галоўнае—тэкст самога помніка, які пра многае можа нам паведаць і найперш пра рэдкую лінгвістычную культуру, якой валодаў аўтар «Сінонімы славенароскай».

Відавочна, што слоўнік гэты быў складзены пазней сваіх славутых папярэднікаў, і аўтар яго ўдала скарыстаў вопыт Л. Зізанія, П. Бярынды і іншых вядомых лексікографаў таго часу.

У даследчыкаў і да гэтай пары няма пэўнай думкі адносна характару і мэты прызначэння «Сінонімы славенароскай», і загадку яе ва ўсім яшчэ належыць разгадаць.

**Чаму аўтар увогуле тлумачальна-перакладны па сваёй структуры слоўнік назваў «Сінонімай»? Ці не тут ключ да адгадкі характару слоўніка, мэты, для якой ён ствараўся?**

**Мы не можам не адзначыць, што ў першай, так званай рэестравай, частцы слоўніка даволі строга вытрымана старабеларуская лексіка, якая гэтак жа паслядоўна перакладаецца ў другой, тлумачальнай частцы на старарускую. У апошняй сустракаецца яшчэ нямала старaславянізмаў, што адпавядала тагачаснаму стану рускай мовы. Багаты старaславянскі элемент мы, як вядома, яшчэ назіраем у рускай літаратурнай мове і ў значна пазнейшыя эпохі.**

**Мяркуючы па ўсім, гэта зусім іншы па сваім прызначэнню слоўнік у параўнанні з «Лексісам з талкаваннем славенскіх моў проста», «Лексісам» Л. Зізанія, «Лексіконам» П. Бярынды. Старажытныя слоўнікі, у тым ліку і вышэй памянёныя, звычайна ўяўлялі сабой вытлумачэнне лексікі вузкарэгіянальнай, мясцовай мовы пры дапамозе мовы міжнародных зносін, якую ўяўлялі сабой старaславянская мова ў славянскім свеце, лаціна—у Заходняй Еўропе.**

**«Сінонімa славенароская» — слоўнік новага тыпу, у якім, бясспрэчна, з апорай на багатую папярэднюю лексікаграфічную практыку, даецца, магчыма, упершыню вытлумачэнне адной народнай мовы на другую.**

І можна толькі ўявіць сабе, якой падзеяй для тагачаснай беларускай мовы, для ўзвышэння яе міжнароднага аўтарытэту было стварэнне «Сінонімы славенароскай». Шкада, што мы не ведаем яе таленавітага аўтара, які задаволіў грамадскую патрэбу ў дапаможніку для перакладу са старабеларускай мовы на старарускую і іншыя блізкародныя славянскія мовы.

А патрэба ў перакладзе па тым часе юрыдычнай і шматлікай іншай літаратуры з мовы Вялікага княства Літоўскага, як можна меркаваць па гістарычных звестках, у нашых суседзяў была немалая. На кнігах таго часу вучоныя нярэдка знаходзяць паметкі: «переведена з белороссийского языка».

Распрацоўваючы тып слоўніка для моў гранічна блізкародносных, што ўяўлялі сабою старабеларуская і старaруская з яшчэ празрыстымі па тым часе прыкметамі агульнасці паходжання, складальнік меў права называць яго «Сінонімай», удакладніўшы характарыстычным азначэннем «славенароская».

Першая спроба стварэння сінанімічнага слоўніка ў строгім сэнсе гэтага слова будзе зроблена стагоддзем пазней рускім пісьменнікам Д. Фанвізіным, што ў 1783 годзе ў «Собеседнике русского слова» надрукаваў свой «Опыт русского сословника», які ўключаў у сябе 32 сінанімічныя рады.

СІНОНІМА ўражвае сваім аб'ёмам — каля 5 тысяч рэестравых радоў, а яшчэ больш сваім сінанімічным багаццем.

У вачах гісторыка беларускай мовы няма цаны гэтаму слоўніку! Цікава вандраваць у гэтым моры славянскага слова, у яго старажытнай этымалогіі, ды яшчэ калі компасам у рэестравай частцы служыць старабеларуская мова, яе гэтак багата прадстаўлены невядомым лексікографам слоўны запас.

У слоўніку шырока прадстаўлены ўсе стылі: ад рэлігійных да свецкіх (навуковага, публіцыстычнага і інш.), амаль усе пласты лексікі (ад бытавой да адцягненай).

Лексічнае багацце слоўнікаў, шырокі адбор нацыянальнай лексікі ў іх сведчыць пра тое, што ў XVI—XVII стагоддзях старая беларуская мова сфарміравалася ў сваіх структурна-сістэмных і стылявых ярусах і ўсведамлялася як носьбітамі яе, так і іншымі народамі як высокаразвітая і надзвычай дасканалая мова. У тыя часы яна значна адрознівалася ад суседніх старапольскай і старарускай, у выніку і ўзнікла неабходнасць у перакладзе з яе на гэтыя блізкародныя мовы.

**Такім чынам, «Сінонімa славенароская», як «Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста» і «Лексіс» Л. Зізанія, пацвярджаюць думку даследчыкаў, што старабеларускай мовай карысталіся і на Беларусі, і ў Літве, і на Украіне, але, нягледзячы на гэта яна, паводле вызначэння Я. Карскага, характарызуецца структурным і матэрыяльным стрыжнявым адзінствам незалежна ад тэрыторыі свайго распаўсюджання.**

**«Сінонімa славенароская», аўтар якой задавальняў шырока ўзрослыя патрэбы перакладу з старабеларускай на суседнія мовы, «Граматыка словенская» І. Ужэвіча, напісаная на лаціне для азнаямлення з айчыннай мовай народаў Еўропы, і іншыя старабеларускія помнікі яскрава сведчаць пра стан высокага росквіту беларускай старалітаратурнай мовы.**

**Алена ЯСКЕВІЧ.**

## І. ЖАЛЯЗОЎСКІ НА РАЎБІЦКІМ АСФАЛЬЦЕ

# ЗНОЎ ПОЎНЫ НАДЗЕЙ

Аматарам спорту вядома, як няпроста сустрэць у Мінску мінчаніна Ігара Жалязоўскага. «Медэа», «Ціалф», «Вале Ховін»... — гэтыя каткі сталі другім домам адзінага ў свеце трохразовага чэмпіёна свету па спрынтарскаму бегу на каньках. І раптам такое шанцаванне: сярод некалькіх скараходаў, якія размашыста робяць кругі на... асфальтавай дарожцы Раўбіцкага спорткомплексу, пазнаем Ігара. Няўжо? Ён самы, толькі на роліках.

Летняя майка, аблягаючае трыко, «плэер» у кішэньцы, сімпатычная ўсмешка надаюць адзінаму беларускаму прызёру зімовай Алімпіяды ў Калгары адпускны выгляд. Але гэта толькі на першы погляд. Той жа пот і тая ж стомленасць, тыя ж знясільваючыя кіламетры за спіной, ды яшчэ па гарачыні. Няпроста «рыхтаваць санкі летам»...

— Я вельмі люблю лета, — прызнаецца Жалязоўскі. — І таму, што яно дае мне магчымасць болей бываць у родных мясцінах, часцей заязджаць да бацькоў у Оршу, і таму, што менавіта летняя Алімпіяда ў Сеуле адкрыла ў мяне «другое дыханне», развеяла тугу пасля Калгары, дзе мне ўдалося заваяваць толькі адзін бронзавы медаль. Засмучэнне было такім вялікім, што я нават хацеў пакінуць спорт. Але бліскучыя выступленні нашых ветэранаў Аляксандра Раманькова, Вячаслава Яноўскага хутка расставілі ўсё па месцах, дапамаглі ўзяць сябе ў рукі. Вырашыў «адпрацаваць» яшчэ адзін алімпійскі цыкл — да Альбервіля. А бліжэйшай мэтай паставіў перамогу на чэмпіянаце свету-89.

Як вядома, першая вышыня пасля так званай «чорнай паласы» была ўзята Ігарам з вялікім запасам. На вядомым «Ціалфе» ў Галандыі, дзе праходзіў чэмпіянат свету, ён заваяваў тры малыя залатыя медалі, адзін бронзавы і першынстваваў у суме мнагабор'я з новым сусветным рэкордам. Перамога была настолькі ашаламляльнай, што галоўны спецыяліст па «пяцісотцы» нямецкі скараход Увэ-Йенс Май ад засмучэння не змог узяць сябе ў рукі і выйсці на ўзнагароду.

Але ўсё гэта ўжо ззаду. А наперадзе ў Ігара, як і раней, — работа і цяжкія кіламетры дыстанцыі. Шырока, размашыста коціць чэмпіён па асфальтавай дарожцы Раўбіцкага спорткомплексу. І, здаецца, што няма для яго розніцы — лёд ці асфальт, вострыя лязо або ролікі — бег Жалязоўскага аднолькава прыгожы.

— Як пры настройцы раяля слухаюць кожную струну, — гаворыць скараход, — «слухаю» кожны свой мускул, спрабую адчуць усе тонкасці кантакту з дарожкай. Я зноў у добрым настроі, зноў у форме і зноў поўны надзей на будучы сезон. І хто ведае, магчыма, добрай прыступкай да яго стане менавіта гэты раўбіцкі асфальт.



**НА ЗДЫМКУ:** Іга[illegible] [illegible]ЛЯЗОЎСКІ гутарыць з трэ[illegible]рам зборнай СССР па канькабежнаму спорту Германам ГУСЕВЫМ.

Фота Г. СЯМЁНАВА.







**Міжнародная эстафета «Парыж — Масква» прайшла праз Мінск. Ззаду засталіся — Нідэрланды, ФРГ, Люксембург, ГДР, Чэхаславакія, Польшча. Кожная краіна атрымала права выставіць каманду з дзесяці чалавек.**
**Ініцыятары эстафеты — члены арг[illegible]цыі «Спартсмены супраць ядзерных ракет» [illegible]РГ), Дзяржкамспорт СССР і Савецкі камітэт абароны міру. Мэта акцыі — пранесці па краінах пасланне за мір, супраць гонкі ўзбраенняў, за экалагічную бяспеку.**
**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі эстафеты на праспекце Машэрава ў Мінску; удзельнікі прабегу алімпійскі чэмпіён па веласпорту Уладзімір КАМІНСКІ і псіхолаг з Галандыі Франц СЛЭДМЗЭТ пасля фінішу ў Мінску; трохразовы алімпійскі чэмпіён ганаровы грамадзянін Мінска Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ вітае ўдзельніка прабегу былога барца ўдзельніка Алімпійскіх гульняў у Токіо галандца Петэра ВЕРНЕРА.**

## ШАШКІ: ПЕРШЫНСТВА СССР

# ВЯРТАННЕ ТРЫУМФУ

У 1986 годзе ў матчы за званне чэмпіёнкі свету сустрэліся Зоя Садоўская і Алена Альтшуль, дзве вучаніцы аднаго трэнера—Міхаіла Каца. З таго часу прайшло тры гады. Стала Голубевай Зоя Садоўская і пераехала ў Рыгу. Стала Ратковіч Алена Альтшуль і нарадзіла сімпатычнага малога. Трэцяя вучаніца М. Каца Ірына Пашкевіч, стаўшы яшчэ ў 1981 годзе віцэ-чэмпіёнкай свету, у апошні час удзяляла менш увагі сабе, а больш—сям'і і ўласным вучням. Міхаіл Кац напісаў кнігу, трэніруе новае пакаленне юных шашыстаў. Адным словам, чакаць хуткага паўтарэння былога трыумфу быццам бы і не даводзілася.

Але вынік чэмпіянату СССР, які завяршыўся ў Кіеве, цалкам абвергнуў падобныя прадказанні. На п'едэстале гонару ўсе тры прызавыя месцы занялі вучаніцы М. Каца. «Золата» —у З. Голубевай! «Серабро»—у І. Пашкевіч! «Бронза»—у А. Ратковіч! І ўсе тры ў жніўні прымуць старт на чэмпіянаце свету ў Нідэрландах.

Перамога ў турніры З. Голубевай была поўнай. Яна перакануча выйграла восем партый і ўжо к дзевятаму туру аказалася па-за канкурэнцыяй. Ірына Пашкевіч і Алена Ратковіч выбралі настолькі ўдалую стратэгію, што дамагліся перамогі з затратай мінімуму сіл і нерваў. Ніхто з траіх не атрымаў у турніры ніводнага паражэння. Чацвёртае месца заняла харкаўчанка А. Харужэнка, і яе таксама чакае старт на чэмпіянаце свету.

Беларуска Т. Балякіна была блізкая да таго, каб трапіць у шасцёрку мацнейшых. Але крыўднае паражэнне ў апошнім туры адкінула яе на восьмае месца. Дзевятай фінішавала мінская школьніца В. Камышляева.

**А. ПРЭСМАН,**
**міжнародны майстар.**

## ЯК СКЛАДВАЕЦЦА ЛЁС БЫЛЫХ СПАРТСМЕНАЎ

# ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ НА ВЯРШЫНІ

**У апошні час усё часцей на старонках газет з'яўляецца тэма, якая раней не карысталася папулярнасцю. Аматараў спорту цікавяць былыя спартсмены. Як склаўся іх лёс пасля зоркавых імгненняў!**

**Гэты матэрыял пра бронзавага прызёра Алімпійскіх гульняў у Маскве лёгкаатлета Мікалая КІРАВА з Гомеля.**

— Нарадзіўся я ў гарадскім пасёлку Стрэшын, што ў Жлобінскім раёне,—так пачаў гаворку М. Кіраў.—Першым трэнерам быў В. Янaчкін са Жлобіна. Потым мяне запрасілі ў Гомельскую школу-інтэрнат спартыўнага профілю. Тут я пачаў займацца пад кіраўніцтвам заслужаных трэнераў БССР А. Чарнецкага і А. Белага.

*— Напомніце, калі ласка, найбольш яркія старонкі сваёй спартыўнай біяграфіі.*

— У склад зборнай каманды (як маладзёжнай, так і дарослай) уваходзіў дзесяць гадоў.

За гэты час шэсць разоў станавіўся чэмпіёнам Савецкага Саюза, быў двухразовым пераможцам Спартакіяд народаў СССР у бегу на 1 500 метраў і ў эстафеце 4×800 метраў, а ў 1981 годзе ў Ленінградзе установіў рэкорд СССР у бегу на 800 метраў. Заваёўваў сярэбраныя медалі чэмпіянату Еўропы ў Афінах і Кубка Еўропы ў Югаславіі.

Аднойчы быў у складзе каманды ў эстафетным бегу 4×800 метраў, якая ўстанавіла рэкорд свету. І, нарэшце, я—бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў у Маскве на дыстанцыі 800 метраў.

*— Папулярнасць учора, калі вы былі дзейнічаючым спартсменам, і сёння. Ці засталіся з вамі былыя паклоннікі?*

— Калі я знаходзіўся, так сказаць, у зеніце спартыўнай славы, у мяне было нямала «паклоннікаў», але калі я павесіў свае шыпоўкі на цвік, яны разбегліся. Вось тады я зрабіў для сябе першае і вельмі важнае адкрыццё — сярод былых «сяброў» не было сапраўдных.

*— Такім чынам, вы завяршылі спартыўную кар'еру... Як пачыналася новае жыццё?*

— У апошнія гады, калі быў спартсменам, я насіў пагоны прапаршчыка Савецкай Арміі. І таму, калі перастаў бегаць, накіравалі на службу ў Гомельскі ваенкамат. Аднак праз паўтара года маю пасаду скарацілі. Дзякуй, мяне не забылі, — запрасілі працаваць у абласны спорткамітэт. Так што зараз я — трэнер зборнай каманды СССР па лёгкай атлетыцы па Гомельскай вобласці.

*— Як вы лічыце, Мікалай, у чым прычыны зніжэння папулярнасці лёгкай атлетыкі?*

— Сапраўды, папулярнасць лёгкай атлетыкі ў краіне ў апошнія гады прыкметна знізілася. І тут шмат прычын. Вось, да прыкладу, у нас у Гомелі няма ніводнага стадыёна, дзе можна правесці спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы на здавальняючым узроўні. Няма стройнай сістэмы падрыхтоўкі і правядзення спаборніцтваў у дзіцячым і юнацкім (масавым) спорце. Дзіцячыя трэнеры (дарэчы, сярод іх ёсць і нямала добрых) разбягаюцца з-за нізкай зарплаты. Акрамя таго, трэнерам-практыкам даводзіцца займацца і рознай, не ўласцівай ім работай. Ды хіба пералічыць усе праблемы.

**Гутарку вёў В. МАРЧАНКА.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Індэкс 63854. Зак. № 882